









АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

29 сакавіка 2000 года
Цана 70 рублёў

№ 13 (2675)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ

## БУДУЧЫНЯ ІНТЭГРАЦЫІ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ВЫНІКАЎ ВЫБАРАЎ У РАСІІ

Нягледзячы на тое, што Мінск у апошнія два-тры тыдні наведалі некалькі расійскіх высокапастаўленых чыноўнікаў, можна гаварыць, што пасля абмену ратыфікацыйнымі граматамі і ўступлення ў сілу Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы паміж Беларуссю і Расіяй у інтэграцыйных ініцыятывах наступіла працяглая паўза. І Расія, і Беларусь зараз знаходзяцца ў чаканні. У абедзвюх краінах разумеюць, што ўнутраная і знешняя палітыка ў Расіі, у тым ліку і ў адносінах да Беларусі, будзе залежаць ад таго, хто стане паўнапраўным гаспадаром Маскоўскага Крамля. Такім чынам, будучыня інтэграцыі больш-менш праясніцца толькі ў красавіку-маі гэтага года, калі новы расійскі прэзідэнт зможа публічна аб'явіць сваю праграму і свае палітычныя погляды.

Што да расійскага боку, то трэба прызнаць: беларуская тэма для маскоўскіх палітыкаў ніколі не была дамінуючай. Але паколькі Беларусь сама настолькі падкрэслівае, што хоча быць партнёрам, Расія не можа гэтага не заўважаць. Праўда, расіянам хочацца зрабіць так, каб супрацоўніцтва з Мінскам мела выгаду і нічога пры гэтым не каштавала. Такі, мякка кажучы, спажывецкі інтарэс яскрава прадэманстраваў візіт у Мінск першага віцэ-прэм'ера ўрада — міністра фінансаў Расіі Касьянава і старшыні Цэнтральнага банка Расіі Геращчанкі. Гэтыя спадары прыязджалі ў Беларусь, каб абмеркаваць праблемы, звязаныя з заснаваннем адзінай грашовай зоны, што прадугледжана ў Дагаворы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.

Расія прапануе ўвесці на тэрыторыі Беларусі расійскі рубель у якасці агульнай валюты. Беларусь жа дайшла да таго, што згаджаецца з гэтай прапановай, але пры той умове, што Нацыянальны банк Беларусі рэальна зможа ўплываць на фінансавую сітуацыю і Беларусь будзе мець уласны эмісійны цэнтр. Зразумела, Расія не згодная дзяліцца стратэгічнымі паўнамоцтвамі на выпуск грошай. Пераход Беларусі на расійскі рубель (а валюта краіны заўсёды з'яўляецца важным элементам яе дзяржаўнасці) ужо дае падставы гаварыць пра страту суверэнітэту Беларусі. Калі ж краіна згодзіцца на ўсе ўмовы, якія прапануе расійскі бок, то Беларусь у такім разе ўвогуле аказваецца цалкам падпарадкаванай і залежнай.

У той жа час эканамічнае становішча Беларусі настолькі складанае, што дзяржава не мае сродкаў для стабілізацыі сваёй валюты. Дарэчы, калі б Беларусь мела ўласную стабільную, то, думаю, пытанне аб адзінай валюце ўвогуле не паўстала б. Расія ж пакуль адмаўляе Беларусі ў крэдыце для стабілізацыі беларускага рубля. Пра гэта і паведаміў Міхаіл Касьянаў у Мінску.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ




У парку імя Горкага ў Мінску ўшаноўвалі святога Патрыка. Гэта нацыянальнае свята Ірландыі другі раз праводзіць у беларускай сталіцы таварыства "Беларусь—Ірландыя".

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

"МІС-БРЭСТ"



**Лаўры еўрамадэлі не спакусілі брэсцкую дзяўчыну Алу Кеба, якая неаднойчы перамагала на конкурсах прыгажосці. Нягледзячы на тое, што былую "Міс-Брэст" і лепшую фотамадэль горада літаральна засыпалі запрашэннямі розныя фірмы і агенцтвы моды, Ала не пакінула родны горад, выбраўшы для сябе звычайны лёс жонкі і маці. Яна шчаслівая, што гадуе дачушку Хрысціну.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

УДАКЛАДНЕННЕ

*Шаноўныя калегі!*

Даводзім да вашага ведама інфармацыю пра тэрміны і тэматычныя накірункі III Міжнароднага кангрэса беларусістаў

*Першая (вясенняя) сесія (22—24 мая)*
*"Беларусь і сусветная супольнасць: узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне культур (Да 2000-годдзя хрысціянства)"*

Секцыі і "круглыя сталы":
● Хрысціянства і Беларусь (праводзіцца сумесна з Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі); ● Францыск Скарына і еўрапейская культура (Да 510-годдзя з часу нараджэння ўсходнеславянскага асветніка-першадрукара); ● Беларусь і Расія; ● Беларусь і Украіна; ● Беларусь і Польшча; ● Беларусь і краіны Балтыі; ● Беларусь і непамежныя краіны Цэнтральнай і Заходняй Еўропы; ● Беларусь і краіны іншых кантынентаў; ● Прадметныя "круглыя сталы" (літаратура, мовазнаўства, сацыялінгвістыка, гісторыя, культуралогія і інш.).

*Другая (асенняя) сесія (26—27 верасня)*
*"Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый"*

Секцыі:
● Сінтэз усходніх і заходніх традыцый у літаратуры і мастацтве Беларусі; ● Дыялог як сродак вырашэння супярэчнасцей паміж нацыянальна-культурнымі і рэлігійнымі супольнасцямі Беларусі; ● Роля беларускай дыяспары ў дыялогу цывілізацый.

Праграма кангрэса на WEBсайце ГА "МАБ".

*Бюро камітэта ГА "МАБ".*

СПОРТ

**НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС.** Атрымаўшы пераканаўчую перамогу ў фінальным матчы Еўрапейскай жаночай лігі над спартсменкамі з Бельгіі з лікам 4:0, нацыянальная жаночая зборная Беларусі па настольнаму тэнісу заваявала пуцёўку ў супердывізіён. У наступным сезоне беларускія бальельшчыкі змогуць назіраць за гульнёй нашых дзяўчат у вышэйшай лізе еўрапейскіх каманд.

**Каця МАЗАКОВА.**



*Майстар спорту міжнароднага класа Тацццяна КАСТРОЛІНА.*

"ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"-45

РАСІЯ

Што магу сказаць пра "Голас Радзімы" па праву чытача з немалым стажам? Можа найперш — аб тым, што мой нацыяналістычны (чытай, патрыятычны) імпэт не раз спатольваўся на старонках "Голасу Радзімы". Спрыяў творчаму нераўнадушшу і тагачасны галоўны рэдактар Вацлаў Мацкевіч (быў рэдактарам газеты з 1969 па 1998 год). З ім пазнаёміўся ў польскім Любліне, на канцэрце Беларускага дзяржаўнага хору на чале з Міхасём Дрынеўскім пад завяршэнне Дзён беларускай літаратуры ў Польшчы (кастрычнік 1982).

Першая публікацыя — гутарка дыпламата (я працаваў тады ў Варшаве) з польскім пісьменнікам і дзяржаўным дзеячам Юзафам Озгай-Міхальскім — пра нашых волатаў Янку Купалу, Якуба Коласа, пра самабытную, трывучую культуру беларусаў.

Мы неяк адразу пранікліся ўзаемным даверам з Вацлавам Мацкевічам. Абцяжараны, як мабыць кожны казённы (афіцыйны) дзеяч, мноствам клопатаў ды засцярог (прасвятляць суродзічаў замежных у дасканапасці савецкага, а цяпер "беларускага" ладу — не жартачкі...), ён, тым не менш, скрозь заставаўся глыбока пераканаым, арганічным беларусам, даволі "вычулёным" на паслядзённы пульс (і арытмію!) нашага нацыянальнага жыцця. Гэтымі далікатна прыхаванымі ў сабе якасцямі, відаць, і прыцягваў аўтарскае кола. За ўсіх не скажу, але свае жаданне штось набалелае сказаць на старонках "Голасу" спатоляў. І пэўна не я адзін.

Успамінам сваім настальгічным ані кропелькай не хацеў бы паменшыць старанні новае, маладзейшае вахты ў "Голасе Радзімы". Прыкметна прыбыло газеце творчае дынамікі, інфарматыўнасці, якасна змяніўся агульны дызайн выдання. Тыднёвік не проста дожыўся, але ўзмацняе, завастрае бачанне спаконвечнай Беларускай ідэі і ў гэтым сэнсе прыкметна павышае свой статус да агульна-беларускага. Словам, не задавайцеся і рупіцеся далей.

Наконт практычных прапаноў. Лёгка быць збоку мудрым ды раіць... І ўсё ж адно пажаданне выкажу. А чаму б не пачаць на старонках (прыкладам, на апошняй) рубрыку накшталт кніжнае паліцы — рэгулярна інфармаваць чытачоў хаця б пра найбольш істотныя беларусазнаўчыя выданні (кнігі, прыкметныя артыкулы ў прэсе). Справа для рэдакцыі не з самых працаёмкіх, затое для нас, аддаленых ад Радзімы, у інфармацыйным сэнсе амаль што "блакаднікаў", — была б падмога, маркую, бясцэнная.

**Аляксей КАЎКА,**
**супрацоўнік Інстытута славяназнаўства.**

г. Масква.

БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ



У Мінску адбылося сумеснае пасяджэнне калегіі Міністэрства замежных спраў Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь.

БелТА.

# БУДУЧЫНЯ ІНТЭГРАЦЫІ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ВЫНІКАЎ ВЫБАРАЎ У РАСІІ

Пачатак на 1-й стар.

Пра сапраўдныя адносіны расійскага боку да інтэграцыйных памкненняў сведчыць той факт, што да гэтага часу Дзяржаўная дума Расіі не сфарміравала састаў дэлегацыі для работы ў Парламенцкім сходзе Саюза Беларусі і Расіі. Па гэтай прычыне сход вось ужо паўгода не можа сабрацца. Такім чынам, дагэтуль не зацверджаны саюзны бюджэт на 2000 год, якім два мінулыя гады так ганарыліся і беларускія, і расійскія парламентарыі.

Увогуле складваецца сітуацыя, калі, нягледзячы на існаванне вялікай колькасці дакументаў, пакуль няма ні самой Саюзнай дзяржавы, ні яе паўнацэнных кіруючых органаў. Паўнамоцны прадстаўнік беларускага Прэзідэнта віцэ-прэм'ер урада Леанід Козік нядаўна, выступаючы перад журналістамі, паведаміў, што блытаніна ў назвах беларуска-расійскага ўтварэння адбываецца па той прычыне, што Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы падпісаны, але паранейшаму дзейнічаюць рабочыя органы Саюза.

Праўда, што да работы кіруючых органаў, то, акрамя парламента, непаўнацэнным пакуль застаецца і Вышэйшы савет. У яго састаў павінны ўваходзіць прэзідэнты, прэм'еры і кіраўнікі палат парламентаў. У Расіі ж часова не было прэзідэнта, а ў Беларусі — прэм'ер-міністра. Дарэчы, яшчэ не адбылося ніводнага пасяджэння і саюзнага Савета Міністраў, які часова ўзначальвае Міхаіл Касьянаў. Прынамсі, і з Пастаянным камітэтам Саюзнай дзяржавы не ўсё зразумела. Прызначаны яго Генеральным сакратаром былы кіраўнік справамі прэзідэнта Расіі Павел Барадзін мае праблемы са швейцарскай Фемідай, таму зараз не надта займаецца публічнай палітыкай.

Такім чынам, кропкі над "і" ў беларуска-расійскай інтэграцыі павінны расставіць выбары ў Расіі. Але іх вынікі прагназаваліся з высокай доляй упэўненасці. Многія назіральнікі называлі прэзідэнтам Уладзіміра Пуціна.

Адстаўка прэзідэнта Барыса Ельцына і змена дэкарацый на расійскай палітычнай сцэне паставілі ў няёмкае становішча беларускія ўлады. Прынцыпова змянілася расстаноўка сіл і ролей у беларуска-расійскіх стасунках. У такім становішчы ініцыятыва рэзка перайшла да расійскага боку. Нават самыя кансерватыўныя беларускія палітыкі прызнаюць, што пры Ельцыне можна было кантраляваць сітуацыю. Таму размовы пра інтэграцыю ў той час былі бясконцымі і не абавязкова прадугледжвалі рэальныя дзеянні.

Фігура Пуціна, як палітыка жорсткага і недвухсэнсоўнага, наводзіць на думкі аб тым, што інтэграцыя можа набыць нечаканы паварот. Напрыклад, беларускаму кіраўніцтву, якое настойліва дэманструе жаданне да яднання з Расіяй, можа быць прапанаваны канкрэтны выбар: адкінуць проста размовы пра інтэграцыю і сапраўды аб'ядноўвацца ў адну дзяржаву ці заняцца нармальным супрацоўніцтвам, усведамляючы, што кожная з дзяржаў мае свае інтарэсы, якія не абавязкова супадаюць.

Гэта разумеюць не толькі афіцыйныя ўлады, але і грамадская супольнасць Беларусі. Напрыклад, беларуская інтэлігенцыя адчула, што кіраўніцтва краіны, працягваючы ранейшыя інтэграцыйныя ініцыятывы, гуляе тым самым у небяспечную гульню, цаной якой можа стаць страта незалежнасці і суверэнітэту Беларусі. Многія вядомыя грамадскія дзеячы выступілі з прапановай правесці Другі ўсебеларускі з'езд. У сувязі з гэтым нельга не ўспомніць той факт, што першы з'езд праводзіўся ў 1917 годзе, калі над незалежнасцю Беларусі таксама навісла сур'ёзная небяспека.

Здаецца, і ўлады зразумелі, што толькі ўсходні вектар знешняй палітыкі мае істотныя недахопы, і спрабуюць наладзіць нармальныя адносіны з заходнімі краінамі. Як адзін з такіх крокаў можна лічыць абвяшчэнне аб пачатку шырокага грамадска-палітычнага дыялога ў краіне.

Юрась ЛЯШКЕВІЧ.

ЗАЎТРА ПАЧЫНАЕЦЦА СЁННЯ

# ДЗЕЦІ ПАВІННЫ ВЕДАЦЬ, ШТО ІХ ЛЮБЯЦЬ

У грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы прайшла прэс-канферэнцыя "Сучасная сістэма адукацыі. Школьныя нагрузкі і праблемы псіхічнага здароўя дзяцей".

Гутарка не абмяжоўвалася толькі праблемамі вучняў, а тычылася псіхічных захворванняў сярод дзяцей у цэлым. У Беларусі жыве два мільёны дзяцей і падлеткаў. У 1998 годзе прынята дзяржаўная праграма "Дзеці Беларусі", а летась — "Закон аб псіхіятрычнай дапамозе". У Мінскім медыцынскім інстытуце адноўлены педыятрычны факультэт.

Стан здароўя дзяцей выклікае заклапочанасць: усяго 32,5 працэнта адносяцца да першай групы здароўя (практычна здаровыя), 56,3 — да другой і 11,2 — да трэцяй і чацвёртай.

Аналіз псіхіятрычных хвароб сведчыць, што іх колькасць сярод дзяцей расце. У Беларусі 44 779 псіхічна хворых дзяцей і падлеткаў. Толькі за бягучы год упершыню па псіхатэрапеўтычную дапамогу звярнулася 10 525 чалавек.

Захворванні эндакрыннай сістэмы павялічыліся ў параўнанні з мінулымі гадамі ў тры разы. Летась 245 дзяцей спрабавалі скончыць жыццё самагубствам. Як сцвярджае галоўны дзіцячы псіхіятр Міністэрства аховы здароўя Беларусі Наталля Грыгор'ева, усе дзеці выратаваныя.

Доктар акрэсліла прычыны росту захворванняў. Першая — цяжкая эканамічная сітуацыя ў краіне. З-за яе ў большасці беларускіх сем'яў і бацька, і маці працуюць поўны дзень. І пры гэтым дзеці не атрымліваюць якаснага, збалансаванага харчавання. У выніку моцнай загружанасці жанчыны перажываюць псіхічны, фізічны ціск, што адбіваецца на дзецях.

Другая — у сем'ях не рэдкасць алкагалізм, насілле (як правіла, з боку мужа). Расце колькасць разводаў (у год яна перавышае лічбу заключаных шлюбаў). Па прычыне вышэйсказанага шмат дзяцей жыве ў стрэсавай сітуацыі.

Яшчэ цяжэй тым, хто выхоўваецца ў дзіцячых дамах і інтэрнатах. 51 працэнт дзяцей (на Беларусі больш за 12 тысяч сірот) маюць захворванні нервовай сістэмы. Такія дзеці ў першую чаргу належаць да групы рызыкі: ім аб'ектыўна нестае эмацыянальнай падтрымкі ў жыцці, што выклікае псіхічную нясталасць.

Грамадства зацікаўлена ў прафілактыцы псіхічных захворванняў, своечасовым іх выяўленні і якасным лячэнні. І справа не толькі ў гуманнасці. Спецыялісты сцвярджаюць: калі дзіця расце ў неспрыяльных умовах, у яго з'яўляецца пачуццё неабароненасці, агрэсіўнасці, накіраванай на навакольны свет. Дадайце сюды небяспеку сутыкнуцца з алкагалізмам ці наркаманіяй і зразумееце, што вышэйсказанае ўплывае на рост злачыннасці. Таму так важна, каб для дзяцей з псіхічнымі парушэннямі існавалі добрыя школы, дзе б з іх не рабілі непаўнацэнных, а неяк рэабілітавалі. Дарэчы, ёсць ужо прыклады інтэграванага навучання дзяцей з некаторымі парушэннямі псіхікі ў звычайных школах.

Па сцвярджэнню Наталлі Грыгор'евай, 35 працэнтаў дзяцей ва ўзросце 6—7 гадоў, якія вучацца ў сярэдняй школе, не дасягаюць школьнай сталасці. Таму сярод іх расце непаспяховасць і як вынік — неўрозы. Фарміруецца неадэкватнасць паводзін. Школьныя праграмы перанасычаныя ўжо ў пачатковай школе. У класах навучаецца да 40 чалавек. Старшакласнікі маюць па 7—8 урокаў. Затым павінны выконваць хатнія заданні, што з'яўляецца звышнагрузкай. Здароўе прыносіцца ў ахвяру адукацыі. Наталля Грыгор'ева паведаміла, што, з аднаго боку, Міністэрствы аховы здароўя і адукацыі супрацоўнічаюць — гэта значыць, праводзяцца розныя сумесныя пасяджэнні. З другога ж, праграма для шасцігадовых дзяцей была ўведзена без кансультацыі з медыкамі. Цяпер яны канстатуюць, што склалася сітуацыя, небяспечная для псіхічнага здароўя дзяцей. Прычыну Наталля Грыгор'ева тлумачыць так: "Мы два розныя ведамствы".

Але беларускіх дзяцей, дзеля якіх працуюць вышэйзгаданыя міністэрствы, і іх бацькоў паставілі перад фактам: навучанне з шасці гадоў, звышнагрузкі, агрэсіўная рэклама па тэлевізары (яе таксама не ацэньваюць медыкі перад выхадам у эфір), наступствы Чарнобыля і іншае. Што тут можна зрабіць? Псіхолаг Рэспубліканскай псіхіятрычнай бальніцы Людміла Казлова раіць: "Трэба любіць сваіх дзяцей і не баяцца, каб яны пра гэта здагадваліся. Іх трэба прывучаць выказваць бацькам свае пачуцці, мець з імі жывы эмацыянальны кантакт ва ўсякім узросце".

Алена СПАСЮК.

АЎТАСЕРВІС




Чатырнаццатая па ліку аўтазаправачная станцыя, разлічаная на 500 заправак ў суткі, уведзена аб'яднаннем "Беларусьнафта" ў строй на адной з самых ажыўленых аўтамагістралей Беларусі Мінск—Гомель у раёне горада Жлобіна. Аўтазапраўка выканана па ўсіх еўрапейскіх стандартах і ўяўляе сабой камфартабельную будову, другой чаргою якой будзе будаўніцтва кемпінга і аўтастаянкі для вадзіцеляў-дальнабойшчыкаў.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

ЗДАРЭННІ

## У ЛАС-ВЕГАСЕ ЗАГІНУЛІ ЭМІГРАНТЫ З ГОМЕЛЯ

У той час, як расійскія і амерыканскія інфармацыйныя агенцтвы ламалі галаву, хто ж загінуў 9 сакавіка ў аўтакатастрофе ў Лас-Вегасе ("новыя рускія", проста рускамоўныя турысты або яшчэ хто-небудзь?), жыхары Навабеліцкага раёна горада Гомеля адпраўлялі ў ЗША тэлеграмы са спачуваннямі, а некаторыя нават збіраліся на пахаванне. Для іх не было сакрэтам, што ўсе ўдзельнікі таго здарэння — былыя нашы суайчыннікі, якія эмігрыравалі ў Амерыку дзесяць гадоў назад з Гомеля. Большасць загінуўшых працавалі некалі на прадпрыемстве "Гомельдрэў".

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# І РАДАСЦЮ

ЯНА прачнулася ад нязвыклага шуму за акном. І не адразу разабралася, што гэта такое. Па металічнай стужцы на знешнім баку падаконніка нешта раз-пораз пастуквала: ці то снег, ці то дождж.

Пачало віднець. Еўдакія Лявонцьеўна больш заснуць не магла. Але і ўставаць не хацелася. Згадалася родная вёска на Смаленшчыне, дзе прайшло яе дзяцінства. Было яно цяжкім, абпаленым вайной, галодным, халодным. Бацька загінуў на фронце. Маці памерла ад тыфу. Ад яго ж памерлі і двое дзяцей з сямі.

Тыя гады пякучым болем адгукаюцца і сёння ў сэрцы Еўдакіі Лявонцьеўны. Ёй ішоў толькі сёмы гадок, калі пачалася вайна. Дзіцячая памяць учэпістая, вочы назіральныя. Усё, што яны бачылі, у памяці засталося назаўсёды. Перажытае ж вярэдзіць душу...



Устала, падалася на кухню. Каб не разбудзіць дачку, старалася не бразгаць каструлямі. Прыгатавала сняданак і абед. Ёй сёння на работу. Зірнула на гадзіннік — палова восьмай, пара збірацца...

На двары было свежа. Ісці лёгка. Ды і блізка, можна не спяшацца. Прайдзі крыху па вуліцы Пятра Глебкі, павярні направа ў ціхі праезд — і вось ён, магазін нумар 27.

Работа ў Е. Зуевай нескладаная, яна гардэробшчыца. Налева ад уваходных дзвярэй стэлаж, у ім дзесяткі "вокнаў", у якія кладуцца рэчы пакупнікоў. Іх, рэчы, трэба прыняць, даць пакупніку нумарок, а пасля выдаць пакладзенае на захаванне.

Кожная работа тады плённая, калі выконваецца акуратна, добрасумленна. Гэтую ісціну Еўдакія Лявонцьеўна засвоіла даўно.

Пакупнікі — людзі розныя. Многія спяшаюцца. Здараецца, што забываюцца пра сваю паклажу. Тут гардэробшчыца нагадвае



АКТУАЛЬНА

# ПАЧАЛАСЯ ЧАРГОВАЯ БІТВА ЗА ЎРАДЖАЙ

На Беларусі пасяўная штогод ператвараецца ў сапраўдную бітву. І пачынаецца яна з назапашвання насення. Не менш шасці месяцаў штогод ідзе на давядзенне насення да належнага ўзроўню. Пастаянна вядзецца селекцыя насення, якое ў нашым наяўстойлівым клімаце давала б добры ўраджай, вытрымлівала капрызы надвор'я. У Беларусі выводзяць эліту адразу дзве буйныя арганізацыі — Акадэмія аграрных навук Беларусі і Рэспубліканскае аб'яднанне "Белнасенне" (20 і 252 эксперыментальныя базы адпаведна). А 883 гаспадаркі вырошчваюць першы ўраджай з новага насення.

Але існуе праблема набыцця эліты радавымі гаспадаркамі. Саўгасы і калгасы не маюць грошай, каб разлічыцца. На сённяшні дзень раскуплена толькі 45 працэнтаў ад агульнай колькасці насення, якое ёсць у аб'яднанні "Белнасенне". Пачата датацыя галіны з дзяржбюджэту. Прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын ужо цяпер зрабіў прагноз, што падчас пасяўной кампаніі адбудзецца ўсплёск інфляцыі, бо ў гэты перыяд неабходна інтэнсіўна ўкладваць грошы ў сельскую гаспадарку. І гэтыя сродкі неабходныя ўжо зараз, бо пакуль забяспечанасць насеннем калгасаў і саўгасаў далёкая ад патрэб.

Па словах старшыні Камітэта па дзяржаўнаму кантролю ў насенняводстве Мікалая Савоські, сёлета нарыхтавана яравой пшаніцы на 9 тысяч тон больш, чым летась. 97 працэнтаў збожжавых культур — кандыцыйныя.

Вялікая праблема — забяспечанасць ільнонасеннем. Беларусь ужо не з'яўляецца буйным вытворцам ільну. Ягоныя пасевы скараціліся больш чым у два разы, калі параўноўваць з пачаткам 90-х гадоў. Прычыны: зношанасць тэхнікі як уборачнай, так і ачышчальнай, дэфіцыт дызпаліва. Шмат гадоў таму гаспадаркі былі замацаваны за льнонасенстанцыямі. Матэрыяльная база, забяспечанасць працоўнай сілай апошніх значна пагоршыліся, многія з іх не з'яўляюцца ўжо льнаводчымі. Тым не менш у Беларусі працуе 600 ільногаспадарак, 1 000 ільнаводчых калгасаў і саўгасаў, а насенне льну па-ранейшаму завозіцца з-за мяжы.

Яшчэ адна бяда пасяўной кампаніі і сельскай гаспадаркі ў цэлым — недахоп кадраў. На прэс-канферэнцыі прагучала, што сёлета плануецца, як у былыя часы, выкарыстоўваць працоўную сілу з гарадскіх прадпрыемстваў. Але гэта не вырашыць праблему недахопу кваліфікаваных спецыялістаў. Пакуль аграном зарабляе 19 мільёнаў рублёў (каля 23 долараў ЗША), пытанне застанецца адкрытым.

**Алена СПАСЮК.**

АГАРОД — КРУГЛЫ ГОД



Цяплічны камбінат "Бярэсце" Брэсцкага раёна вырошчвае агародніну ў закрытым грунце на плошчы 14 гектараў. Гэта ў асноўным агуркі і памідоры. У мінулым годзе за кошт іх рэалізацыі рэнтабельнасць вытворчасці склала 40 працэнтаў, а прыбытак — 180 мільярдаў рублёў. Усё гэта ў асноўным дзякуючы выкарыстанню высокаўраджайных сартоў і прымяненню галандскай тэхналогіі малааб'ёмнага вырошчвання агародніны з кропельным палівам. Значна павялічыўшы аддачу закрытага грунту, у саўгасе-камбінаце расходаванне газу змаглі знізіць у 5,5 раза.

НА ЗДЫМКУ: цяплічніцы Іна САЗОНАВА і Любоў ДАБРАДЗЕЙ.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

НАВУКА Ў АСОБАХ




# НАПЕРАДЗЕ ЯШЧЭ ДАРОГА

***ДА 60-годдзя АКАДЭМІКА, ДОКТАРА ГІСТАРЫЧНЫХ НАВУК, ПРАФЕСАРА Міхася КАСЦЮКА***

З ЦЯЖКАСЦЮ верыцца, што людзі, якіх памятаеш зусім маладымі, у статусе аспірантаў, ужо адзначаюць шаноўны 60-гадовы юбілей. Упершыню з Міхасём Касцюком давялося сустрэцца ўвосень 1966 года, калі ён здаваў уступныя іспыты для паступлення ў аспірантуру Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР.

Гэта быў час, калі кожны сумленны гісторык з трывогай сачыў за тым, што адбывалася ў нацыянальна-культурным жыцці краіны. Яно радавала толькі тых, хто трывала стаяў на пазіцыях інтэрнацыяналізму ў бальшавіцкім разуменні гэтага слова, з прыемнасцю назіраў, як беларускі народ у выніку няўхільнага правядзення курсу на збліжэнне і зліццё нацыянальных культур і моў губляў сваю этнічную самабытнасць. Але ў такога курсу былі апаненты. Тады яшчэ і з усходніх, як найбольш зрусіфікаваных, раёнаў Беларусі прыязджалі настаўнікі сельскіх агульнаадукацыйных школ і прасілі дазволу здаваць іспыт па спецпрадмету на беларускай мове. Міхась Касцюк таксама нарадзіўся ў мясцовасці з яшчэ далёка не размытымі беларускімі этнакультурнымі традыцыямі — у вёсцы Масцішча, што на Наваградчыне. Скончыў Наваградскае педагагічнае вучылішча, гісторыка-філалагічны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута (1963), пасля якога працаваў дырэктарам васьмігадовай беларускамоўнай школы ў вёсцы Баярская Наваградскага раёна.

Ад першых дзён знаёмства з гэтым маладым чалавекам не магу прыгадаць выпадку, каб ён, ведаючы, што ў грамадскім жыцці я спрэс карыстаюся толькі беларускай мовай, праігнараваў гэты факт, загаварыў са мною па-руску. Такога ж правіла трымаўся ён і з іншымі беларускамоўнымі супрацоўнікамі.

Паводле мерак таго часу, яго дысертацыя прысвячалася даволі актуальнай для гістарычнай навукі тэме: "Працоўная актыўнасць калгаснага сялянства Беларусі ў перыяд перамогі і ўмацавання сацыялізму (1933—1940 гг.)". Міхась Касцюк стаў кандыдатам навук у 29 гадоў. З наступнага года яму даверылі заняць пасаду вучонага сакратара Інстытута гісторыі АН БССР.

Да маладых здольных гісторыкаў-навукоўцаў заўжды пільна прыглядвалася кіраўніцтва Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Паклала яно вока і на Міхася Касцюка. Шэсць гадоў ён знаходзіўся на пасадзе вучонага сакратара гэтага інстытута.

У 1980 годзе Міхась Касцюк паспяхова абараняе доктарскую дысертацыю, якую ад кандыдацкай аддзяляў усяго толькі дзесяцігадовы тэрмін. Стаць доктарам гістарычных навук удалося на 40-м годзе жыцця, што ў той час было досыць рэдкай з'явай і натхняла да правядзення новых даследаванняў.

Пасля глыбокага роздуму, парад з калегамі больш багатага жыццёвага і навуковага вопыту Міхась Касцюк вяртаецца ў 1981 годзе ў свой першы калектыў — Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі, дзе яму прапанавалі пасаду намесніка дырэктара. Калектыў быў вялікі, што перашкаджала належным чынам заняцца ўласнай навукова-даследчай працай. Гэта асноўная прычына, што пасля вельмі ўдалых другой паловы 60-х—70-х гадоў утварыўся пэўны навуковы вакуум. Да таго ж з другой паловы 80-х гадоў, г. зн. з часу гарбачоўскай перабудовы, як стала зразумелым кожнаму цвярозаму навукоўцу, патрэбны былі зусім новыя падыходы да асвятлення многіх гістарычных падзей, якія дзесяцігоддзямі падаваліся ў нас у моцна заідэалагізаваным выглядзе. У значнай ступені вольнымі ад яго ўжо былі выдадзеныя адпаведна ў 1986 і 1989 гадах кнігі Міхася Касцюка "Працоўны ўклад сялянства ў перамогу і ўмацаванне сацыялізму. На матэрыялах Беларусі" і "Сацыялістычныя каштоўнасці працаўнікоў сяла: гісторыя, сучаснасць, перспектывы".

Адыход Міхася Касцюка ад шаблону, навязанага ідэалагічнымі структурамі партыі бальшавікоў усім гуманітарным навукам, дапамог не толькі на больш высокім тэарэтычным узроўні пісаць уласныя творы, але і на такім жа ўзроўні выступаць у ролі навуковага рэдактара шэрагу кніг. Асабліва гэта выявілася ў час рэдагавання "Нарысаў гісторыі Беларусі" ў дзвюх частках (1994—1995), праца над якімі працягвалася пяць гадоў. Даўно калектыў гісторыкаў не меў такой рэальнай магчымасці гаварыць народу праўду пра яго мінулае, як на гэты раз. Усяляк спрыяў такой творчай дзейнасці і сам галоўны рэдактар "Нарысаў..." І вынік: у рукі чытачоў трапіла вельмі каштоўная навуковая праца, якая з вялікай цікавасцю чытаецца і ў наш час. У ёй Міхасю Касцюку належаць, акрамя звароту да чытача і заканчэння, наступныя прынцыповай важнасці параграфы: "Тэндэнцыі грамадска-палітычнага жыцця" (20-я гады XX ст.), "Развіццё культуры" (разам з Уладзімірам Палуянам), "Барацьба з "нацыянал-дэмакратызмам". Усталяванне дыктатарскага рэжыму ў БССР", "Драматычны шлях калектывізацыі", "Рэгламентацыя грамадска-палітычнага жыцця", "Рэпрэсіі — самае цяжкае злачынства дыктатарскага рэжыму" (разам з Уладзімірам Міхнюком).

Трэба адзначыць, што ўпершыню за ўвесь час існавання інстытута згаданая калектыўная праца пісалася па-беларуску, а не ў перакладзе аўтарскіх тэкстаў спецыялістамі-філолагамі з рускай мовы на беларускую, як гэта было пры падрыхтоўцы да выдання "Гісторыі Беларускай ССР" т. II (1958), "Гісторыі Мінска" (1967) і "Гісторыі Беларускай ССР" у пяці тамах (1969—1975). Несумненная заслуга ў беларусізацыі працы па напісанні "Нарысаў..." належала кіраўніку інстытута, які паставіўся да сваёй роднай мовы як да афіцыйнай, што стала добрым прыкладам для пераймання з боку многіх яго калег. Гэта лішні раз даказвае, як важна, калі мы не на словах, а на практыцы жадаем выратаваць свой народ ад культурна-

Заканчэнне на 4-й стар.

**Вялікае княства Літоўскае ўзнікла ў перыяд княжання Міндоўга, князя Навагародскага, які аб'яднаў пад сваёй уладаю Навагародчыну, частку Полацкай зямлі і ўсходнія землі Літвы ў адзіную беларуска-літоўскую дзяржаву. Сюды потым увайшлі ўсе беларускія, літоўскія, частка ўкраінскіх і заходнерускіх зямель. У 1253 годзе Міндоўг прыняў тытул караля, каранаваўся ў Новагародку, які быў яго рэзідэнцыяй. Вёў барацьбу з Лівонскім і Тэўтонскім ордэнамі, супраць лівонцаў нават заключыў у 1262 годзе дагавор з Аляксандрам Неўскім.**

**У гонар 740-годдзя каранацыі князя Міндоўга на гары Міндоўга ў Навагрудку ў 1993 годзе ўстаноўлены мемарыяльны камень Адзін з ініцыятараў гэтай урачыстасці Міхась Касцюк.**

**НА ЗДЫМКУ: Міхась КАСЦЮК у час адкрыцця помніка.**

**Фота з архіва БелТА.**

# СВЕЦЯЦЦА ВОЧЫ

ім, што трэба рэчы забраць. Таму яна і сочыць за пакупнікамі.

Назіранні пра многае сведчаць. Яны даюць багата фактаў для роздуму. Па паводзінах, выразах твараў бачна, чым людзі задаволеныя, чым абураныя. Сёння на Беларусі жыццё нялёгкае. Адны пакупнікі ідуць з магазіна моўчкі, іншыя кідаюць зласлівыя рэплікі на адрас улады.

Такога Е. Зуева за сваё жыццё нaглядзелася ўволю. Яна жыла пры розных "праваДырах". Пры Сталіне была катарга. Пры Хрушчове пасля агульнага паляпшэння зніклі прадукты. Пры Брэжневе застой. Гарбачоў пагаварыў-пагаварыў, нічога талковага не зрабіў.

На такія развагі жанчына мае права. Яна дзесяцігоддзі аддала цяжкай працы, зрабіла шмат карыснага, а "даслужылася" да пенсіі, на якую пражыць немагчыма. Вось і вымушана на старасці падзарабляць.

На Смаленшчыне, на той час адной з самых бедных расійскіх абласцей, існаваць было немагчыма. У 1957 годзе Еўдакія падалася ў Мінск. Прытуліў яе сваяк, памог уладкавацца ў сёмае будаўнічае ўпраўленне чацвёртага трэста дапаможнай рабочай. Пасля стала мулярам. Там і працавала да пенсіі.

Еўдакія Лявонцьеўна ўдзельнічала ва ўзвядзенні шмат якіх будынкаў. Па ўсім Мінску стаяць дзіцячыя сады, школы, бальніцы, да "нараджэння" якіх і яна прыклала свае сілы і здольнасці. Менавіта на будаўніцтве такіх аб'ектаў спецыялізавалася сёмае ўпраўленне.

— Здача ў эксплуатацыю кожнага будынка была для мяне святам, — сказала Е. Зуева, і ў вачах яе ўспыхнулі агеньчыкі задавальнення.

Асабліва ганарыцца яна бальніцай "хуткай дапамогі". На будаўніцтве вялікага бальнічнага гарадка Еўдакія Лявонцьеўна працавала гадоў восем. Бальніца ўзведзена па ўсіх правілах сучаснай архітэктуры і адпавядае патрабаванням медыкаў.

— Рабіць людзям дабро павінен кожны чалавек, — лічыць Е. Зуева. — Тады і жыць усім будзе лягчэй.

Сямейныя справы яе склаліся не вельмі ўдала. У чарзе на атрыманне кватэры стаяла дванаццаць гадоў. Атрымала двухпакаёўку ў "крывым" доме. Нейкі архітэктар (ці архітэктары), апантаны савецкім патрыятызмам, вырашыў "напісаць" дамамі літары СССР: каб было іх відаць зверху, з самалёта. Некалькі "крывых" дамоў узвялі, затым, мусіць, нехта дацяміў бязглуздасць задумы — і астатнія дамы не будавалі.

— Мне дасталася кватэра на згібе, конусападобная, — незадаволена кажа жанчына. — Мэблю ж для такіх дамоў не выпускаюць, а нармальную ў крывы пакой паставіць цяжка.

Напаткала яе і няшчасце: трынаццаць гадоў таму памёр муж. Засталася з дачкой Ленай, якая працуе на скургалантарэйнай фабрыцы.

У жыцці кожнага чалавека ёсць і светлыя, і цёмныя дні, падзеі, гады. Я спытаў пра іх у Еўдакіі Лявонцьеўны. Яна, прыжмурыўшы вочы, падумаўшы, адказала:

— У мяне асабіста самыя страшныя гады былі ваенныя і пасляваенныя. Я, мае браты і сёстры ледзь выкараскаліся з бяды. А светлае? Ведаеце, яго было зусім мала. Праца, хата, турбота пра кавалак хлеба. Хіба што — дзеці і ўнукі.

Адзін, сын маёй Лены, жыве са мной. Людміла ж у Прыбалтыцы, там і ўнучка мая, ужо і яна нарадзіла дзіця. Так што я стала прабабкай. Гэта светлае.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### ЛАТВІЯ

Дасылаю свае запісы ў надзеі, што яны вас зацікавяць. І яшчэ я рыхтую праект "Моладзь прыгранічча. Праблемы і перспектывы ў XXI стагоддзі". Хачу запрасіць вашага супрацоўніка прыняць удзел у яго распрацоўцы.

Спадзяюся выйграць. Розныя фонды такім праектам ідуць насустрач.

З павагаю

**Таццяна БУЧЭЛЬ.**

### ПОЛЬШЧА

**БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ ДЛЯ ПАЛЯКАЎ**

Нядаўна ў Беластоку (Польшча) адбыўся гала-канцэрт VII Усепольскага фестывалю "Беларуская песня-2000", у якім прынялі ўдзел каля 30 народных калектываў і выканаўцаў з нашай рэспублікі. Польскія гледачы цёпла віталі выступленні ансамбля народнай песні і танца "Церніца", заслужаных артыстаў Беларусі Якава Навуменку, Святлану Суседчык і іншых.

На працягу мінулага года ў Польшчы адбылося больш за 80 падобных мерапрыемстваў, арганізаваных Беларускім таварыствам. Пра цікавасць да апошняга фестывалю гаворыць прысутнасць на гала-канцэрце трохтысячнай аўдыторыі горада Беластока.

**Вольга МЕШЧАРАКОВА.**

### ІТАЛІЯ

Шлю прывітанні ад сваёй сям'і. Я паказала ўсім ваша віншаванне, ім вельмі спадабалася. А мой унук Аляксандр, яму 13 гадоў, прасіў аддаць яму. Але я тлумачу, што гэта дарагі для мяне падарунак з Радзімы.

Як ваша жыццё ў 2000 годзе? Спадзяюся, што будзе шмат добрага. Надзею ж у нас ніхто не можа ўкрасці.

**Ваша Леанарда МАЛЕЕВА.**

Мілан.

### ЛІТВА

**ПЛЕНЭР НАРОДНЫХ МАЙСТРОЎ**

У Вільнюсе ў Беларускай школе імя Ф. Скарыны прайшоў пленэр народных майстроў з Беларусі. Сяргей Шчэрба з вёскі Навасёлкі-1 Пастаўскага раёна, выпускнік Віцебскага педагагічнага інстытута, захапляецца прафесійна не толькі ганчарствам, але і графікай, іграе на народных музычных інструментах, арганізаваў сямейны ансамбль, які ў свяце "Сямейныя таленты" ў Сянно стаў лаўрэатам. Сваё майстэрства перадае сыну і дачцэ, вучням школы, у якой працуе. Ён паказваў і вучням нашай школы, як гліна ў "залатых" руках майстра ператвараецца ў мастацкія творы: свістулькі, конікаў, гарлачыкі, жаночыя ўпрыгажэнні і г. д.

Ларыса Раманеня з Салігорска — майстар саломапляцення, таксама ўдзельніца розных конкурсаў, лаўрэат прэстыжных прэмій, выпускніца Беларускага інстытута культуры, член Саюза майстроў рэспублікі. На яе выставе былі сапраўды "саламяныя дзівосы": кветкі, карціны, велікодныя яйкі, шкатулкі і г. д. Мастацкія творы з задавальненнем набывалі для прыватных калекцый і настаўнікі, і госці школы як памяць аб сустрэчы з народнымі майстрамі.

**Леакадзія МІЛАШ.**

### У НЬЮ-ЁРКУ

# БЕЛАРУСКІ ФЕСТЫВАЛЬ

27-га лютага ў Саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшоў Беларускі Фэстываль, арганізаваны супольна парафіяльнай радай Сабору, нью-ёрскім аддзелам БАЗА й Асацыяцыяй раёну Мід-Атлянтык. Фэстываль рыхтаваўся для азнаямлення амэрыканцаў з жыццём беларусаў у Амэрыцы, зь беларускай культурай і гісторыяй. Старшыня кансысторыі й парафіяльнай рады Сабору Барыс Данілюк прывітаў усіх гасьцей і падзякаваў удзельнікам падрыхтоўкі й арганізацыі фэстывалю. Віталь Зайка павітаў прысутных ад імя нью-ёрскага аддзелу БАЗА і пажадаў фэстывалю посьпеху.

Наступным з прывітаньнем выступіў кіраўнік беларускага аддзелу ў Дзяржаўным дэпартаманце ЗША Джон Армстронг. Ён адзначыў, што ўрад ЗША з увагай сочыць за развіцьцём падзеяў у Беларусі. Ён прасіў лічыць ягоную прысутнасьць на імпрэзе знакам таго, што падтрымка Злучанымі Штатамі незалежнасьці Беларусі, дэмакратыі й правоў чалавека для яе грамадзянаў працягваецца й узмацняецца.

...З прывітаньнем да прысутных зьвярнуўся таксама сябра рады (councilman) бруклінскага муніцыпалітэту Кен Фішэр, які балятуецца на прэзыдэнта Брукліну. Ён выказаў падзяку царкве, якая стала адным з галоўных арганізатараў імпрэзы, адзначыў патрэбу разьвіцьця розных этнічных групаў Амэрыкі й дыялёгу паміж імі. Ён таксама сказаў, што ягоныя бацькі родам зь Віцебску, і таму яму ўдвая прыемна вітаць гэтую імпрэзу. Дзякуючы незалежнасьці Беларусі, цяпер ён дакладна ведае, адкуль паходзяць ягоныя бацькі. Бо раней заўсёды была праблема тлумачыць, дзе гэта ёсьць Віцебск, "і не Расея, і не Польшча". Цяпер Беларусь мусіць мацаваць сваю дзяржаўнасьць.

...Прысутныя пазнаёміліся з убраньнем беларускай праваслаўнай царквы. Дзякуючы стараньням сп-ня Валі Якімовіч і Алы Орса-Раманы мноства людзей прыйшло ў беларускіх строях, а потым адбылася іх адмысловая прэзэнтацыя. На сцэнах залі й на стэндах былі прадстаўленыя краявіды Беларусі, звесткі з культуры й гісторыі, мапы, выявы славутых людзей, цэркваў і касьцёлаў. На сталах былі ўзоры народнага мастацтва: вышыўкі, пляценькі з саломы, посуд, ручнікі, якія можна было набыць. Прадавалася мноства кнігаў, касэтаў, СД з беларускімі запісамі.

Дзякуючы стараньням жанчынаў тут-жа можна было пакаштаваць славутую беларускую страву — дранікі са сьметанаю, а таксама другія стравы й напоі.

Фэстываль сабраў шмат людзей, і беларусаў, і амэрыканцаў, зь Нью-Ёрку й ваколіцаў, Нью-Джэрзі й нават з больш далёкіх месцаў. Перад прысутнымі выступілі музыкі, трыё сям'і Казакоў разам са славутай Валянцінай Пархоменка, а таксама Алесь Бапотнік са сваёю маленькаю дачушкаю.

...Па адзінадушнай думцы ўсіх прысутных, фэстываль меў вялікі посьпех.

**В. ЗАЙКА.**

("Весткі й паведамленьні").

## БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



Споўнілася 190 гадоў з дня нараджэння беларускага мастака Івана Хруцкага, большая частка жыцця якога прайшла на Віцебшчыне. Ён пісаў пейзажы, інтэр'еры, партрэты, ствараў іканастасы. Аднак вядомасць яму прынеслі нацюрморты — прыгожыя, пышныя, з ілюзорнай выпісанасцю прадметаў. Хруцкага па праву называюць заснавальнікам класічнага нацюрморта рускага жывапісу першай паловы XIX стагоддзя. Менавіта "за выдатныя працы ў партрэтным, пейзажным і асабліва жывапісе пладоў і агародніны" яму прысвоена званне

# АБ СВЯТАПОЛК-МІРСКІХ

Мюнхенская газета "Бацькаўшчына" за 25 сакавіка 1957 года змясціла "Інтэрв'ю з князем Базылём Сьвятаполк-Мірскім", які ўвосень 1945 года "быў арыштаваны, ці дакладней кажучы, украдзены на адной з вуліц горада Вены" і вывезены ў Савецкі Саюз. "Вельмі нядаўна, — паведамляла газета, — праз Аўстрыю ў Заходнюю Нямеччыну прыбыў князь Базыль Сьвятаполк-Мірскі, які адбыў адзінаццацігадовы тэрмін зьняволеньня ў савецкіх турмах і канцлагерах. Князю Сьвятаполк-Мірскаму 52 гады. Гэта адзін з нешматлікіх прадстаўнікоў старага беларускага арыстакратычнага роду, які не згубіў сувязі з нашым народам, захаваў любоў да Беларусі й ейнага мінулага...".

У сувязі з гэтым прывядзём звесткі яшчэ пра аднаго Святаполк-Мірскага:

Мірскі (Святаполк-Мірскі) Зміцер Пятровіч, князь, сын ліберальнага міністра ўнутраных спраў Расіі П. Святаполк-Мірскага, нарадзіўся ў маёнтку Гіеўка Харкаўскай губерні. Скончыў філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. У 1911 годзе выдаў зборнік юнацкіх вершаў. Служыў у царскай арміі, апошняе вайсковае званне — капітан. Пасля рэвалюцыі быў у эміграцыі, у 1922—1932 гадах жыў у Англіі, чытаў курс рускай літаратуры ў Лонданскім універсітэце і Каралеўскім каледжы. Надрукаваў вялікую колькасць прац па гісторыі літаратуры, у тым ліку — "Гісторыя рускай літаратуры" (1927) і "Сучасная руская літаратура" (1926), якія шматразова перавыдаваліся ў Англіі ды ЗША. У 1930 годзе ўступіў у кампартыю Вялікабрытаніі, у 1932 годзе вярнуўся ў Савецкі Саюз. Ні выпрабаванні апошніх пяцнаццаці гадоў, ні радаслоўная, якая пачыналася ледзь ці не ад Рурыка, не перашкодзілі яму, па сведчанні аднаго з мемуарыстаў, зрабіцца... "паўнапраўным удзельнікам мноства літаратурных задзіночанняў і захадаў у якасці аўтара, рэдактара, сураз'моўцы і амфігрыёна". З. Мірскі прапрацаваў даследы па гісторыі рускай літаратуры, садзейнічае папулярызацыі ў Савецкай Расіі найноўшай англамоўнай літаратуры, піша артыкулы аб савецкіх паэтах. 2 чэрвеня 1937 года З. Мірскі быў арыштаваны і 20 чэрвеня таго ж года асуджаны Асобай Нарадай НКУС СССР "па падазрэнню ў шпіянажы" на восем год папраўча-працоўных лагераў. Восенню 1937 года параплаў "Кулу" даставіў зняволенага Мірскага ў бухту Натаева. Першыя паўгода яго выкарыстоўвалі ў якасці лесасека (лагпункт пры аўтабазе № 2, пасёлак Атыка), але ўжо ў студзені 1938 года ён цяжка захварэў і ў далейшым працаваў вартаўніком. У лютым 1939 года з дыягназам "дэкампенсіраваны міякард і абмаражэнне" быў накіраваны ў інвалідны лагпункт.

**Аляксандр БАРКОЎСКІ.**

## НАТАТКІ Яўгена ЛЕЦКІ

# ВОЛАТ

7 сакавіка дажджліва-пахмурным днём сябры і паплечнікі правялі ў апошні шлях Міколу Ермаловіча. Ён пры жыцці быў легендай. Адзін узняў з небыцця велізарны пласт нацыянальнай гісторыі, зрабіў тое, што ў сілу аб'ектыўных прычын не здолеў здзейсніць ні акадэмічны Інстытут гісторыі, ні разам узятыя ўсе (а іх дзесяткі) кафедры гісторыі пры вышэйшых навучальных установах. Яго асноўныя працы: "Па слядах аднаго міфа", "Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды", "Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд".

Была завершана і здадзена ў выдавецтва праца яго жыцця ў найбольш шырокім і выверыным варыянце, якая неўзабаве выйдзе кнігай пад назвай "Беларуская дзяржава. Вялікае княства Літоўскае". Але, трымаючы яе ў руках, мы, аднадумцы і паплечнікі, схілім галовы ў журбе і смутку ды нізка, да самай зямлі, паклонімся гэтаму чалавеку, Беларусу з вялікай літары, які паказаў, што ўсё дасяжна і пераадольна, калі ёсць розум і воля, калі магутны дух узвышае і робіць моцным нават кволае цела.

Мікола яшчэ хлапчуком пашкодзіў зрок і спакваля па сутнасці стаў невідушчым. Асабліва тады, калі пачаў узорваць нашы гістарычныя аблогі. Лекары ўвогуле забаранялі яму займацца навукай, нават чытаць, але ён усведамляў, што куды страшней за слепату фізічную слепата духоўная. І з года ў год, з дня ў дзень ён садзіўся на электрычку і ехаў з Маладзечна ў Мінск, у наша асноўнае кнігасховішча (цяпер Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь), падымаўся ў беларускую залу і сядаў за свой стол. Усяго на пару гадзін, бо больш проста фізічна было немагчыма. Дапамагалі, але не ратавалі адмысловыя акуляры са знарок дапасаванымі да ягоных вачэй лінзамі. Чытаў і пісаў ён своеасабліва: літаральна вадзіў акулярамі па паперы. Але варта яму было выйсці ў калідор, як яго тут жа абступалі сябры і знаёмыя. Мікола Іванавіч раптоўна пераўвасабляўся ў палымянага, неспакойнага ў руках і словах прамоўцу. Толькі аднаго-адзінага чалавека магу паставіць побач з ім, хто з такой апантанасцю кожнае імгненне, кожную хвіліну напагатове ўступіць ці то ў спрэчку, ці то ў сяброўскі дыялог за Беларусь. Гэта Ларыса Геніюш. Так прынамсі было, калі яна ўпершыню спаткала мяне на з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, тады яшчэ маладога хлопца, пасадзіла побач з сабой і, як запаветнае, цвярдзіла: "У цябе ёсць талент і воля, ты нарадзіўся на старажытнай зямлі і павінен, мусіш прысвяціць сваё жыццё Бацькаўшчыне..."

З Міколам Іванавічам мяне пазнаёміў мой найдаражэйшы сябра аспіранцкай пары, чалавек тонкай паэтычнай душы, феноменальнай памяці і глыбокага пранікліваga розуму Рыгор Семашкевіч, жыццё якога, на вялікі жаль, трагічна абарвалася ў чэрвені 1982 года. У Грыша вельмі рана абудзіўся паэтычны талент, ён пачаў друкавацца яшчэ школьнікам і быў сябрам літаратурнага аб'яднання пры маладзечанскай раённай газеце, куды наведваўся і Мікола Ермаловіч.

Для нас, студэнтаў, а потым і аспірантаў, Мікола Іванавіч быў духоўным бацькам і бясспрэчным аўтарытэтам...

Шчаслівы тым, што непасрэдна прычыніўся да выдавецкага лёсу Міколы Іванавіча. Калі ён пачаў у "Маладосці" пры зацікаўленым спрыянні Генрыха Далідовіча друкаваць раздзелы "Старажытнай Беларусі", я тады працаваў загадчыкам рэдакцыі крытыкі і драматургіі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". "Часопіс добра, а кніга яшчэ лепей," — падумаў сам сабе, падаў ідэю аўтару, чаму ён, зразумела, мог толькі ўзрадавацца. Побач са мной у рэдакцыі працаваў на той час зусім малады, але з грунтоўнай, у асноўным саматугам набытай, беларусазнаўчай падрыхтоўкай Сяргей Шупа. Ідэя выдаць "Старажытную Беларусь" яго захапіла. Спачатку мы нават нікому не казалі (пра гэта я прасіў і Міколу Іванавіча), што рыхтуем кнігу да выдання, якая не была профільнай для нашай рэдакцыі. Дзякаваць Богу, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" тады працавалі адданыя беларускай ідэі кіраўнікі, якія зрабілі неабходнае, каб кніга выйшла на высокім паліграфічным узроўні. Але найперш трэба аддаць належнае згаданаму Сяргею Шупу: свайго маладога гарэння і шчырай прафесійнай працы ён сюды ўклаў нямала.

А я, апрача дзяржаўнай пасады, быў тады і кіраўніком Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". І добрую долю накладу замовіў на патрэбы гэ-





акадэміка Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў.

НА ЗДЫМКАХ: каля карціны І. ХРУЦКАГА "Кветкі і плады"; рэпрадукцыя аўтапартрэта Івана ХРУЦКАГА (1810—1885).

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

**СІТУАЦЫЯ**

### ПРАЗ БЕЛАРУСЬ — З ТРАНЗІТНЫМІ ВІЗАМІ

Беларускі ўрад прыняў рашэнне аб прыпыненні існуючага дагэтуль парадку транзітнага праезду замежных грамадзян праз тэрыторыю нашай краіны. Цяпер [illegible] праезду праз Беларусь трэба будзе мець беларускую транзітную візу. Такім чынам, Беларусь выйшла з Пагаднення аб узаемным прызнанні віз дзяржаў — удзельніц СНД ад 13 лістапада 1992 года.

Міністэрства замежных спраў тлумачыць новы парадак перасячэння тэрыторыі Беларусі імкненнем да эфектыўнай барацьбы з нелегальнай міграцыяй. Па звестках МЗС, штогод колькасць нелегальных мігрантаў, якія трапляюць у Беларусь, складае каля 100 тысяч чалавек. Да таго ж раней з памянёнага пагаднення выйшлі некаторыя азіяцкія дзяржавы СНД, якія ўвогуле ўвялі візавы рэжым для грамадзян з іншых краін СНД.

Новы парадак беларускі бок паспрабаваў увесці ў дзеянне з 15 сакавіка. Адной з першых на радыкальны крок беларускіх уладаў адрэагавала Літоўская Рэспубліка. Літоўскі бок папрасіў адкласці ўвядзенне [illegible]вых умоў перасячэння тэ[illegible]торыі Беларусі да таго часу, пакуль яны не будуць шырока абнародаваны. У адказ на ноту беларускі бок прыпыніў дзеянне новага парадку на два тыдні.

**Юрась ДОМНІЧ.**

# ПОЎНАЕ ЗАЦЬМЕННЕ МЕСЯЦА

**АПАВЯДАННЕ**

ЯК ТОЛЬКІ зацямніла шкло ў вокнах, на небе, быццам яе нехта раптоўна вывесіў, з'явілася поўня. Але ніхто з тых, хто весяліўся ў кватэры, яе не заўважыў.

Потым мімаходзь успомнілі пра тое, што ці чыталі ў газеце, ці чулі па радыё, быццам якраз сённяшнім вечарам павінна адбыцца поўнае зацьменне месяца. Малазначная гэта навіна нікога не кранула, дый не магла ўразіць: што асаблівага ў зацьменні Месяца? Запалілі святло, потым зноў яго пагасілі, прынеслі свечкі. Гучала музыка, звінелі бакалы, сплываў да столі цыгарэтны дым.

Вечарынка, між тым, заканчвалася. П'яненькая Ева была ў гэтыя хвіліны асабліва прыгожая. Як танчылі, яе разабрала яшчэ больш. На жанчын, здараецца, находзіць іншым разам нешта такое: хочацца стаць самай жаданай, каб кожны прагнуў да яе дакрануцца, даць каму-небудзь поўху ці ўвогуле скінуць з сябе ўсё, што надзета. Ева хіхікала, валялася на канапе, паказваючы свае доўгія стройныя ногі, запальвала тонкую карычневага колеру дамскую цыгарэтку і пускала праз ярка-ружовыя вусны кольцы дыму.

На вечарынцы завіхаліся яшчэ некалькі дзяўчат і хлопцаў. Хлопцы прывялі дзяўчат з сабой, амаль усе былі разбітыя па парах, толькі Ева, царыца гэтага звычайнага і стыхійнага балявання, была лішняя. Якраз гэтая абставіна падагравала пачуцці і эмоцыі.

Да Евы прысуседзіўся Андрэй — плячысты хлопец, з шырокай шыяй барца, але "царыцы" хутка надакучылі яго прамалінейныя намёкі, і яна ўскочыла з канапы насустрач Міхасю — высокаму, чарняваму хлопцу, з гожым тварам і аддзячыла яго пацалункам у вусны.

Іншыя дзяўчаты ненатуральна ўсміхаліся, часцей прыхарошваліся ля люстэрка і ўвогуле рабілі выгляд, быццам усё гэта іх мала кранае, але раз-пораз спакваля кідалі на Еву красамоўныя, нядобрыя позіркі. Бадай, у кожнай кампаніі адна з жанчын ці ў сілу большай прыгажосці, прыцягальнасці для мужчын, ці якіх іншых здольнасцей заўсёды вызначаецца на першы план, а астатнія імкнуцца не прызнаць гэтага і нават разбурыць агульнае ўражанне. Так было і зараз.

Стась — высокі, хударлявы юнак з доўгім, вузкім тварам, цвярозы, глядзеў на ўвесь гэты, як ён лічыў, балаган, халоднымі шэрымі вачыма, якія ўсё прыкмячалі і нічога не пакідалі па-за ўвагай.

Ён увогуле амаль не ўжываў спіртное. Не таму, што яго арганізм не выносіў алкаголю, а па той простай прычыне, якая глыбока прыхавалася ў яго натуры: Стась быў халодны, абачлівы малады чалавек, які разлічваў усё да дробязей і ніколі не даваў волі эмоцыям.

Так і цяпер. Ён знерухомеў на некалькі секунд у агульным тлуме і слупах тытунёвага дыму — думаў.

Потым зайшоў у пусты пакойчык, знайшоў тэлефон, зняў слухаўку, набраў нумар і сказаў напаўголаса:

— Стары, прывет. Выручай. Сітуацыя простая: дзесьці праз гадзіну я буду ў цябе з адной герл. Трэба дах на энны час. Аддзячу, анягож.

У слухаўцы запанавала непрацяглая паўза, а потым голас (Стась званіў свайму сябру, які жыў адзін у двухпакаёвай кватэры) адказаў:

— Вязі тады дваіх, і на маю долю. А то разбудзіш дарэмна пасярод ночы. І выпіць захапі.

І сябра, пасмейваючыся, пачаў расказваць Стасю нейкую лухту: як у вёсцы, праз якую правялі чыгунку і пусцілі рух, рэзка ўзрос прырост насельніцтва, а справа была ў тым, казаў ён, што людзей сярод ночы будзілі цягнікі. Стась ведаў, што сябра ніколі не жыў ні ў якой вёсцы, увогуле расказваў яму нейкі няўдалы варыянт анекдота, але цярпеў. Урэшце ў слухаўцы змоўкла і Стась таропка сказаў "чакай" і кінуў яе на рычаг.

Еву, між тым, заносіла. Яна выпіла яшчэ шампанскага, схапіла гітару і закрычала нешта ў стылі панк-року, падробліваючыся пад спявачку.

Андрэй з Міхасём у гэты час выйшлі ў калідор нібыта пакурыць. Але прыпальваць яны не сталі, а пачалі высвятляць адносіны.

— Ты ж, змей, прыйшоў сюды з дзяўчынай, вось і вядзі яе дадому, а Еву пакінь мне, — ціхамірна прапанаваў Міхась.

— Давай памяняемся, — не згадзіўся Андрэй. — Евачка ўпадабала мяне, я ведаю.

— Яна з табой не пойдзе, дурачок!

— Няўжо?

Андрэй коратка размахнуўся і ўдарыў Міхася кулаком у твар. Той паспеў ухіліцца і таму не толькі збярог свой знешні выгляд, але "адказаў" саперніку нагой у жывот. Пачалася бойка.

Дзяўчаты, між тым, збіраліся. Стась зазірнуў у калідор: самы раз было выкрадаць Еву. Ён лічыў сябе самым хітрым і разумным у гэтай кампаніі, у якой шмат хто, на яго погляд, проста "тырчэў з зямлі".

Стась спусціўся ўніз і пашукаў вачыма Еву, але дзяўчаты ўзнялі гвалт, бо разнімалі тых, хто біўся. Урэшце ён адшукаў яе. Ева выцягнула з сумачкі люстэрка і падфарбоўвала вусны. Раптам люстэрка выпала і разбілася. Ева захіхікала.

— Стасік, — сказала яна, — вось я люстэрка разбіла, дык ты мне скажы замест яго: праўда, я самая прыгожая?

— А можна, я табе потым раскажу?

— Калі гэта потым? Ты такі дзіўны, але не, ты — хітраван.

— Мы паедзем з табой разам. Так, Евачка? Ты разбіла люстэрка, а толькі я ведаю, як зняць урокі, — інакш табе будзе вельмі кепска.

— Ай, Стасік, мне зусім не страшна. Ты ўсё маніш, маніш. Ну, згода, згода, паедзем.

— Зараз, Евачка, — шапнуў Стась ёй. — "Тачку" злаўлю і наперад.

— Так, так, — хітра ўсміхалася дзяўчына. — Едзем, Стасік!

Стась выбег на асфальт і падняў руку. Калі ж з трэцяй спробы ён спыніў таксі, Евы, шчаслівай, прыгожай і п'яненькай, побач з ім не аказалася. Не было яе і сярод дзяўчат, і з хлопцамі, і ў кватэры.

Ева пайшла адна.

Хістаючыся, яна ціхенька пакрочыла ў напрамку да прыпынку аўтобуса, але тыя не хадзілі з апоўначы. Ева спявала, радасна хіхікала і часам аж заходзілася ад прыступаў смеху, што так спрытна абхітрыла ўсіх і пазбавілася ад сваіх кавалераў. Зоркі і поўня мігцелі ў яе над галавой.

* * *

У аддзеле нумар пяць, створаным пры рэспубліканскім Міністэрстве ўнутраных спраў з мэтай пошуку прапаўшых без вестак, следчы Новікаў — лысаваты, нягеглы чалавек у пацёртым пінжаку, якія завуць хапункамі, ужо каторы дзень выклікаў па чарзе ўдзельнікаў вечарынкі. У ва ўсіх іх было алібі, следчы Новікаў ведаў гэта, але пратаколы гутарак з імі неабходна было скласці, падшыць у справу і здаць начальству.

Следчы сядзеў у сваім цесным і няўтульным кабінеце, слухаў пра ўжо вядомыя яму факты і малазначныя дэталі: пра шампанскае, пра тое, як танчылі і пелі, пра гітару, пра бойку, разбітае люстэрка і ўрэшце пра поўнае зацьменне месяца.

Следчы выклікаў чарговага ўдзельніка той вечарынкі і прасіў распісацца пад пратаколам. Здзівіў следчага Новікава толькі адзін з той кампаніі — студэнт па імені Стась. Але ўжо праз якую хвіліну следчы дапяў, што гэты Стась папросту спакваля кпіць над ім.

Студэнт гаварыў яму, што ў той вечар было поўнае зацьменне Месяца, што ён раней чытаў пра сем палётаў амерыканскіх астранаўтаў на той самы Месяц і што там яны бачылі шмат незвычайнага, але ўсё гэта засакрэчана, і што на нябачным баку спадарожніка размешчаны базы іншапланецян: там, як пчолы ў сотах, іх караблі. Следчы курыў танную цыгарэтку маркі "Прыма" і слухаў. Далей студэнт Стась паведаміў, што, па даных уфолагаў, з Зямлі ўкрадзена больш пяці тысяч чалавек. Дзеля чаго — невядома. Пэўна тымі іншапланецянамі.

І тады следчы Новікаў, стараючыся стрымлівацца, выцягнуў з сейфа пухлую папку з фотаздымкам і пасунуў студэнту.

— Гэта тыя, каго мы потым знаходзім, — сказаў ён.

Студэнт Стась прагледзеў з палавіну, а потым раптам стаў шэры і папрасіў вады.

Следчы Новікаў наліў яму з графіна ў шклянку, пачаставаў цыгарэтай і сказаў:

— Ну а зараз пайшоў прэч.

Студэнт Стась ціха выслізнуў з кабінета, а следчы яшчэ нейкі час сядзеў і складаў даныя ў спецыяльны міліцэйскі бюлетэнь па пошуку прапаўшых: "...знікла дзяўчына васемнаццаці гадоў, бландзінка, высокая, сто семдзясят сантыметраў, у блакітнай сукенцы і чырвоных туфлях-шпільках..."

Дадому ён ішоў позна ўвечары. Сутонела. У начным небе вісеў яркі, бліскучы і дакладна акрэслены Месяц.

**Юры СТАНКЕВІЧ**

# БЕЛАРУСКАГА ДУХУ

тай грамадскай арганізацыі, якая тады сапраўды дзейсна працавала на наша нацыянальнае Адраджэнне. Такім чынам "Старажытная Беларусь" трапіла ў шмат якія замежныя беларускія асяродкі. Але найбольш яе "асела" на Беласточчыне. Я падгаварыў Міколу Іванавіча, і ён, нягледзячы на гады і зрок, пагадзіўся паўдзельнічаць у дабрачынным культурна-асветніцкім чыне на Беласточчыне. Мы заладавалі ў "Рафік" паўтысячы асобнікаў — і паехалі. Ды на мяжы нам нашы беларускія мытнікі сказалі "стоп". Вярнуліся назад у Гародню. Я пайшоў да начальніка. Прозвішча яго абнадзейвала. Але ніякім ён сваяком ні Міхасю, ні Ігару Чарняўскім не быў. Хіба што сваяком па духу. Бо калі я яму паказаў "Старажытную Беларусь" ды патлумачыў, як яна будзе дарэчы буларускай вучнёўскай моладзі на Беласточчыне, ён адразу ж загаварыў па-беларуску, пацісную мне руку і тут жа набраў патрэбны нумар тэлефона...

Са зменай начальства ў "Мастацкай літаратуры" доступ туды Ермаловічу быў перакрыты. "Віленскі перыяд" старажытнай Беларусі я выдаваў у выдавецтве "Бацькаўшчына". Кніга мела прыстойны, а як па цяперашнім часе, дык для беларускамоўных выданняў проста велізарны наклад (25 тысяч асобнікаў), але разышлася вельмі хутка, дзякуючы папулярнасці імя аўтара і (пагадзіцеся, гэта таксама вельмі істотна) нізкай, даступнай усім цане. На жаль, апошнім часам мы часта назіраем адваротную з'яву: імкненне пагрэць рукі на беларускай патрыятычнай тэматыцы.

Напісанае Міколам Іванавічам мы планавалі выдаць асобнай кнігай пад умоўнай назвай "Беларуская дзяржава", пачынаючы ад яе станаўлення ў Полацкім княстве, найвышэйшага ўзлёту і росквіту ў часы Вялікага княства Літоўскага і канчаючы заняпадам у складзе Рэчы Паспалітай і поўнай ліквідацыяй з уключэннем беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі. Сродкі на гэтае грунтоўнае выданне павінны былі паступіць ад рэалізацыі кніг "Адкуль наш род" Уладзіміра Арлова і "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях" Янкі Запрудніка. Ды напаткала нечаканка: я са сваім выдавецтвам трапіў у няміласць.

Акрыяў і стаў на ногі толькі праз два гады. І зноў да Міколы Іванавіча з прапановай: давайце выдаваць "Беларускую дзяржаву". Ён жа толькі завохаў і развёў у роспачы рукамі. Выявілася, што за гэты час падпісаў дамову з прыватным выдаўцом, паводле якой на працягу пэўнага часу толькі ён меў права выдаваць Ермаловіча.

Але ж неяк Мікалай Іванавіч з той дамовай развязаўся, бо года паўтара назад сам патэлефанаваў і сказаў мне пра гэта. Але сродкаў, на жаль, у мяне тады не было.

Ды ўсё ж перакананы: кніга будзе! Толькі што Мікола Іванавіч не парадуецца разам з намі, не патрымае яе ў руках, не прыкладзецца тварам да яе старонак, якія будуць пахнуць друкарскай фарбай.

Апрача "Беларускай дзяржавы", абавязкова патрэбны яшчэ адзін том, куды ўвойдуць "Па слядах аднаго міфа", згаданыя тут "Гутаркі", надрукаваныя і не надрукаваныя ў перыёдыцы артыкулы і рэцэнзіі.

Так што досыць успамінаў і згадак. Час падумаць пра тое, як будзе ўшанавана памяць гэтага незвычайнага чалавека, які прысвяціў і да самага астатку аддаваў жыццё Беларусі. У свой час я прапаноўваў гарадскім уладам зрабіць Ермаловіча ганаровым жыхаром Наваградка. Але ў тых былі свае арыенціры і свае ўлюбёнцы. Імя Міколы Ермаловіча можа быць нададзена культурна-асветным установам: школам, бібліятэкам і г. д. У тым ліку і беларускай зале нашай Нацыянальнай бібліятэкі, дзе ён так рупліва і самааддана працаваў, выводзячы з небыцця "на свет цэлы" старажытную Беларусь, а заадно і навучаючы, выхоўваючы сваіх маладзейшых паплечнікаў, якія працавалі побач з ім.

Ужо сёння трэба падумаць і пра тое, каб яго ўскрылёная, надзвычай каларытная постаць была ўвасоблена ў адмысловым помніку, выкананым Майстрам.

Жывым жа — жыць. Такой змабілізаванасці духу і цела, якіх дамогся Мікола Ермаловіч, дасягнуць нялёгка і няпроста. Але імкнуцца да гэтага трэба. Зробленае ім абавязвае.

ПРЭМ'ЕРА

# СПАТКАННЕ З РАГНЕДАЙ

У Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача адбылася прэм'ера новай п'есы вядомага беларускага драматурга Аляксея Дударава "Палачанка". Гэта трагічная легенда пра лёс полацкага князя Рагвалода, які княжыў у X стагоддзі, і яго дачкі, звесткі пра якіх да нас данеслі "Аповесць мінулых часоў", Іпацьеўскі і Лаўрэнцьеўскі летапісы. Галоўныя ролі ў спектаклі сыгралі Алег Сідорчык, Юлія Палубінская, заслужаны артыст Беларусі Анатоль Жук. Рэжысёр спектакля Андрэй Саўчанка.

Шчыра кажучы, калі я даведалася пра сюжэт п'есы, то падумала: ізноў Рагнеда, колькі ж можна пра яе гаварыць? Усім са школы вядомая гісторыя няшчаснай князёўны. Але ... на спектаклі я ўбачыла нешта іншае. Аляксей Дудараў разам з пастаноўшчыкам спектакля Андрэем Андросікам прапанавалі гледачам сваю версію гэтай гісторыі. Па-першае, хачу зазначыць, што мяне ўразіла сцэнаграфія, якую ажыццявіў народны мастак Беларусі Барыс Герлаван і якая вельмі добра спалучылася з выразна трывожнай музыкай кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча. Сцэнаграфія адметная сваёй мабільнасцю, фрагменты мастацкага афармлення спектакля ўвесь час мяняюцца, каб падтрымаць і ўзмацніць думку драматурга і пастаноўшчыка. Уявіце сабе карціну: ноч у лесе, полацкія дзяўчаты, сярод якіх і Рагнеда, здзяйсняюць старажытны абрад вянчання з Ярылам, водзяць карагоды вакол драўлянай статуі Бога. Раптоўна позірк князёўны сустракаецца з позіркам незнаёмага мужчыны, які заблукаў і апынуўся тут. І іх напаткае вялікае каханне, прыгожае, рамантычнае і вельмі *трагічнае*. А мужчына той быў не хто іншы, як знаёмы нам з гісторыі "зладзей" князь наўгародскі Уладзімір, сын кіеўскага князя Святаполка і яго рабыні Малушы. Далей дзея па летапісу: пасля смерці Святаполка яго старэйшы сын Яраполк стаў княжыць у Кіеве і ў палітычных мэтах вырашыў ажаніцца з дачкой полацкага князя. Уладзімір, закаханы ў Рагнеду, таксама жадае мець яе жонкай. І вось як, на думку драматурга, магло ўсё адбыцца: Рагвалод даў згоду сватам Яраполка без размовы з дачкой, што па полацкіх законах, было вялікім грахом. Ён не хацеў аддаваць Рагнеду за сына рабыні, і калі прыехалі сваты ад Уладзіміра, вывеў ім замест дачкі пераапранутую ў князёўну дзяўчыну, якая нібыта і сказала вядомыя словы: "Не хачу разуці рабыніча". Рагнеда ж, зачыненая бацькам, спрабавала забіць сябе. Толькі тады бацька апамятаўся і згадзіўся адмяніць сваё слова, але было ўжо позна. Раз'юшаны ад гора і крыўды Уладзімір пайшоў на Полацк вайною...

На гэтым, уласна, п'еса і заканчваецца. Трагічная развязка. Але на душы не засталося пустэчы і жаху. Напэўна, таму, што спектакль яшчэ раз пераконвае: каханне ёсць, было і будзе, і яно дорыць чалавеку адчуванне найвялікшага шчасця.

Менавіта таму, па словах Андрэя Андросіка, ён узяў гэтую п'есу. Гісторыя ў дадзеным выпадку можа быць толькі прычынай, каб яшчэ раз сказаць штосьці новае пра каханне. Спектакль пра тое, каб ніколі ў жыцці не наступіў момант, калі б можна было сказаць "позна". Тут няма ніякай гістарычнай праўды, абсалютная версія спадара Дударава і тэатра. Ставіць проста гісторыю не трэба, ле няхай пішуць гісторыкі. А тэатр займаецца міфамі. "Я хацеў бы, — кажа ён далей, — каб тыя, хто прыйшоў на спектакль, паверылі, што каханне было, ёсць і будзе". Я веру. А вы?

**Лавінія АРЭШКА.**

ШКОЛА ЧЭМПІЁНАЎ

За чвэрць стагоддзя свайго існавання Брэсцкая дзіцяча-юнацкая спартыўная школа алімпійскага рэзерву па гімнастыцы падрыхтавала звыш дзвюх тысяч спартсменаў, у тым ліку восем майстроў спорту міжнароднага класа, больш за 200 майстроў спорту і кандыдатаў у майстры спорту. І з тых 640 чалавек, якія займаюцца ў школе зараз, некалькі ўжо ўключаны ў нацыянальную зборную.



НА ЗДЫМКУ: правы бегць у нацыянальнай зборнай дабіўся Ігар КАЗЛОЎ.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# УРОКІ ДЗЕДА ЎСЁВЕДА

**ПРЫВІТАННЕ! Я ВЕЛЬМІ РАДЫ ЗНОЎ СУСТРЭЦЦА З ВАМІ, МАЕ ДАРАГІЯ СЯБРЫ!**

## Урок № 2

## ПОРЫ ГОДА. ВЯСНА

У зялёнай спадніцы
Ідзе гэта маладзіца:
На галаве — вяночак,
Голас як званочак.
Дзе яна ступае,
Там зямля ажывае.

**А ВОСЬ ЯКІЯ СЛОВЫ ПРЫНЕСЛА З САБОЮ КРАСУНЯ ВЯСНА:**

**Сакаві́к** — март.
**Красаві́к** — апрель.
**Май (тра́вень)** — май.
**Веснавы́, вясно́вы** — весенний.
**Уве́сну** — весной.
**Кро́пля** — капля.
**Со́нца, со́нейка** — солнце, солнышко.
**Руча́й** — ручей.
**Звіне́ць** — звинеть.
**Абуджа́цца** — пробуждаться.
**Капе́ж** — капель.
**Паво́дка** — паводок.
**Прата́ліна** — проталина.
**Кве́тка, кра́ска** — цветок.
**Падсне́жнік** — подснежник.
**Прале́ска** — пролеска.
**Падбе́л** — мать-и-мачеха.
**Дрэ́ва** — дерево.
**Вярба́** — верба.
**Пупы́шка (на дрэве)** — почка.
**Распусці́цца** — распуститься.
**Кве́цень** — цветень.
**Цвісці́** — цвести.
**Пту́шкі** — птицы.
**Грак** — грач.
**Шпак** — скворец.
**Жураве́ль** — журавль.
**Бу́сел** — аист.
**Вясёлка** — радуга.
**Мала́нка, бліскавіца** — молния.

Падкрэсліце словы, з якімі вы сустрэліся ўпершыню, і складзіце з імі сказы. Пагуляйце са сваімі бацькамі ці бабуляю або дзядуляю ў наступную гульню: яны вам называюць рускія вясновыя словы, а вы — беларускія адпаведнікі.

**А ЗАРАЗ ПРАПАНУЮ ВАМ КРЫЖАВАНКУ. ПЕРАКЛАДЗІЦЕ СЛОВЫ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ І, ПРАЧЫТАЎШЫ ПА ВЕРТЫКАЛІ СЛОВА, ДАВЕДАЕЦЕСЯ, ЯКОЙ МОЖА БЫЦЬ ВЯСНА**




**ЦЯПЕР ПАСЛУХАЙЦЕ ЗАГАДКІ ПРЫГАЖУНІ ВЯСНЫ, ЗАПОМНІЦЕ І ПА ПАМЯЦІ ЗАГАДАЙЦЕ ІХ СВАІМ ЗНАЁМЫМ**

Ледзь вясна шчэ наступае —
Ён канцэрты пачынае.
Гучна льецца песня-свіст...
Як завецца той артыст?

(Шпак)

Не на дрэве, не ў кустах
Пасяліўся шэры птах —
Ён жыве у полі,
Дзе прастораў болей.
К сонцу падымаецца —
Песняй заліваецца.

(Жаваранак)

Цераз палі, цераз лугі
Спусціліся канцы дугі.

(Вясёлка)

Мяне ўсе просяць,
Мяне ўсе чакаюць,
А як толькі з'яўлюся,
Хавацца пачынаюць.

(Дождж)

Бегла ліска каля лесу блізка,
Ні сцежкі, ні дарожкі,
Толькі залатыя рожкі.

(Маланка)

**НЕКАТОРЫЯ ВЯСНОВЫЯ ПРЫКМЕТЫ**

● Калі грачы адразу на гняздо ляцяць, вясна будзе цёплай.

● Грак прыляцеў — праз месяц снег сыдзе.

● Калі з бярозы цячэ многа соку — на непагоду.

● Дождж скрозь сонца — на непагоду.

● Птушкі ўюць гнёзды на сонечным баку — на халоднае лета, на ценявым — на цёплае.

● Салаўі пяюць усю ноч — на пагодлівы дзень.

● Жаваранкаў не чуваць з самай раніцы — будзе дождж ці ўвогуле дрэннае надвор'е.

Для гэтай птушкі не стаў перашкодаю зашклёны балкон і калючы кактус, які расце на падаконніку адной мінскай гарадской кватэры. Сцюжа прымусіла яе схавацца ў цэнтры кветкі і звіць там гняздо, каб дачакацца цёплай вясны.

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

**А ГЭТА ЖАРТОЎНАЯ ПЕСЕНЬКА: *"ЗАЙЦАВА БЯДА"***

*В. САВАСЦЮК.*




Зайца ўбачыла сарока
І застракатала:
"Пераапранайся,
белы,
Глянь, вясна настала!"
Разгубіўся заяц бедны,
Бегае па лесе,
Бо забыў, дзе ўвосень шэры
Кажушок павесіў.



**Падрыхтавала Святлана КАРПУЧОК.**

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1832.
Падпісана да друку 27.3.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).